ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: (212) 380-2036

Год XXIII, № 190 Нью Ёрк February — Люты New York Vol. XXIII № 190

## ВЯРНУЦЬ ЗАГРАБЛЕНАЕ!

Зь перадрукаванага на другой бачыне гэтага нумару „Беларуса" артыкулу маладога беларускага мастацтвазнаўца зь Гомельшчыны Віктара Говара „Адвечная прыгажосьць", што быў зьмешчаны ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 10 кастрычніка 1972 г., беларускае грамадзтва ў БССР мела магчымасьць упяршыню шырэй, хоць далёка яшчэ няпоўна, даведацца пра Беларускі Музэй у Вільні ды пра ягоную сумную долю. Магло даведацца фактычна пра адзін толькі аддзел гэтага Музэю — зборы народнага мастацтва, пра што ход у згаданым артыкуле Віктара Говара. Але й на аснове таго, што з гэтага аддзелу было выстаўлена ў экспазыцыі Гістарычна-этнаграфічнага музэю Акадэміі навукаў Лятувіскае ССР у Вільні, Віктар Говар мог сказаць наступнае: **„Уражае размах і аб'ём зьбіральніцкай дзейнасьці, сёньня гэта ў стане рабіць толькі буйны краязнаўчы музэй".** Але аддзел народнага мастацтва быў далёка не найбагацейшым і не найкаштоўнейшым у Беларускім Музэі. Сабраныя й перахоўваныя ў ім іншыя памяткі беларускае старасьвеччыны мелі яшчэ большую каштоўнасьць.



**Частка арыгінальнага беларускага народнага дывана з Ваўкавыскага павету, складзенага із 180 рознага ўзору паяскоў. Дыван гэты быў адным з асабліва каштоўных экспанатаў Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча з галіны народных тканінаў. У часе ліквідацыі Музэю савецка-лятувіскімі ўладамі дыван гэты быў перададзены ў Гістарычна-этнаграфічны музэй Акадэміі навукаў Лятувіскай ССР. Вышэй зьмешчаная фотарэпрадукцыя з выдадзенай у 1957 г. у Вільні кнігі „Лятувіскае народнае мастацтва — Тканіны", кн. I, б. 251, дзе дыван гэты пададзены як узор... народнага лятувіскага мастацтва, а пра месца ягонага паходжаньня — Ваўкавышчыну ня згадваецца зусім. Таксама ня згадваецца, што ён быў собкасьцяй Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні.**

Дык што-ж прадстаўляў сабой заснаваны ў 1921 годзе ў тагачасным беларускім культурным цэнтры Заходняе Беларусі — у Вільні Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча?

Перад намі „Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства", кніжка I, выдадзены ў Вільні ў 1933 годзе на 15-я ўгодкі гэтага Таварыства, што было заснаванае ў 1918 годзе ў Вільні, як прыватная навуковая ўстанова. Гадавік адчыняецца тэкстам юбілейнага дакладу старшыні Ўраду Беларускага Навуковага Т-ва Антона Луцкевіча на паседжаньні ўраду Таварыства 22 сьнежня 1932 году „Пятнаццаць гадоў працы Беларускага Навуковага Таварыства". Даклад зьмяшчае шмат важных фактаў пра паўстаньне й гісторыю Музэю. Апрача гэтага, у Гадавіку знаходзім і адмысловы артыкул „Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча", напісаны тым-жа Антонам Луцкевічам, ведамым публіцыстым „Нашай Нівы" й літаратурным крытыкам, што быў кіраўніком (дырэктарам) гэтага Музэю ад часу ягонага заснаваньня й да восені 1939 году, калі быў ён бальшавікамі арыштаваны й фізычна зьнішчаны.

На аснове згаданых дакладу й артыкулу Антона Луцкевіча, як і іншых друкаваных крыніцаў былой Заходняй Беларусі даведваемся, што гэнай базай Музэю, пра якую згадвае ў сваім артыкуле Віктар Говар, хоць і не адважваецца назваць прозьвішча собсьніка гэнай базы, была прыватная калекцыя Івана Луцкевіча, аднаго з галоўных кіраўнікоў заснаванае ў 1903 годзе Беларускае Сацыялістычнае Грамады й ейнага фактычнага органу — „Нашай Нівы".

Археалёг паводля асьветы й вялікі энтузіясты беларускай старыны, Іван Луцкевіч ад 3-яе клясы гімназіі й да сваёй сьмерці ў 1919 годзе зьбіраў экспанаты для будучага Музэю. У згаданым артыкуле ягонага брата Антона Луцкевіча чытаем: **„Іван Луцкевіч, творачы сваю калекцыю, меў на мэце сабраць матарыялы, якія-б далі магчымасьць вывучэньня матарыяльнае і духовае культуры беларускага народу, беларускага мастацтва — галоўным чынам народнага, беларускай гісторыі — перадусім з часоў Вялікага Княства Літоўскага".** Апрача гэтага, як сказана ў згаданым дакладзе Антона Луцкевіча — „Пятнаццаць гадоў працы Беларускага Навуковага Таварыства", мэтай будучага Музэю мелася быць і **„выпаўненьне ролі беларускае культурнае рэпрэзэнтацыі".**

Апрача асабістых збораў Івана Луцкевіча, кнігазбор Музэю выдатна папоўніўся перададзенай яму часткай бібліятэкі ведамага беларускага этнаграфа Е. Раманава й віленскай бібліятэкай „Знание", у якой нейкі час працаваў Янка Купала. Собсьнік гэтае бібліятэкі беларускі дзеяч Барыс Даніловіч, як сказана ў згаданым артыкуле Антона Луцкевіча, **„не вярнуўшыся зь „бежанства", аддаў гэту культурную цэннасьць беларускаму грамадзтву".**

Іван Луцкевіч, будучы цяжка хворым і прачуваючы блізкую сьмерць, падараваў у 1918 годзе ўсю сваю калекцыю Беларускаму Навуковаму Таварыству ў Вільні. У згаданым дакладзе „Пятнаццаць гадоў працы Беларускага Навуковага Таварыства" чытаем: **„На паседжаньні Ўраду Т-ва 13 траўня 1918 году Ів. Луцкевіч зрабіў афіцыяльную заяву, што ён аддае Т-ву плады сваёй многагодняй працы: архіў, бібліятэку, гістарычныя беларускія памяткі, сабраньне ікон, абразоў, партрэтаў, нумізматаў і інш. Гэты надзвычайна цэнны з навуковага боку дар, прыняты Т-вам з глыбокай удзячнасьцяй, стаўся асновай Беларускага Музэю, закладзенага ўжо пасьля сюмерці ахвярадаўцы— у 1921 годзе — у Базыльянскіх мурох".**

Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча паўстаў і існаваў, як аўтаномная адзінка (сэкцыя) Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, кіраваўся адмысловай Радай Музэю. У 1933 годзе — годзе выхаду „Гадавіка Беларускага Навуковага Таварыства" — Музэйная Рада складалася в трох асоб: дырэктара музэю А. Луцкевіча, бібліятэкара Ул. Самойлы і скарбніка Т-ва інж. А. Нэканда-Трэпкі.

За пэрыяд між абедзьвюма сусьветнымі войнамі Музэй усьцяж папаўняўся ахвярамі беларускага грамадзтва Заходняй Беларусі, што зьбірала розныя памяткі старасьвеччыны і ўзоры народнага мастацтва ды ахвяроўвала іх Музэю, як сваёй нацыянальнай скарбніцы. Гэткім парадкам, юрыдычным собсьнікам Музэю была прыватная беларуская грамадзкая ўстанова — Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні, а фактычным собсьнікам — беларускі народ.

Апрача багатай калекцыі народнага мастацтва, пра якую піша Віктар Говар, у Музэі перахоўваліся ня менш каштоўныя памяткі дагістарычных часоў і раньняй гісторыі Беларусі, пачынаючы ад XI стагодзьдзя, важныя матарыялы й дакумэнты беларускага адраджэнскага руху XIX-пачатку XX стагодзьдзя, дакумэнты й матарыялы зь дзейнасьці Рады і Ўраду БНР у галіне тварэньня беларускае дзяржаўнасьці, рукапісныя старасьвецкія кнігі й старадрукі. Дзеля прыкладу, прыгадаем, што ў Музэі перахоўваліся сыгнэты зь пячаткамі полацкіх князёў — Усяслава Вялікага Чарадзея з XI стагодзьдзя й Барыса з XII стагодзьдзя, пячатка Вялікага Князя Міндоўга, рэдкі экзэмпляр „Зьмяявіка" — бронзавага мэдальёну з XI-XII стагодзьдзя з эмблемамі — з аднаго боку паганскімі, з другога — хрысьціянскімі, багатая калекцыя манэтаў Вялікага Княства Літоўскага, калекцыя старадаўніх крыжоў, пачынаючы ад XII стагодзьдзя. З рукапісных кнігаў у Музэі знаходзілася Жухавіцкае Евангельле XIV стагодзьдзя, рукапісная кніга XVI стагодзьдзя „Аль Кітаб", пісаная пабеларуску арабскімі літарамі, а із старадрукаў — „Трыодь Цьветная", друкаваная ў Кракаве ў друкарні Швайпольта Фэоля ў 1491 годзе па загаду караля Казімера Ягайлавіча, частка „Біблії" Францішка Скарыны, надрукаванай ім-жа ў Празе ў 1517 годзе, адзін зь першых маскоўскіх друкаў Пётры Мсьціслаўца й Івана Фёдаравіча „Часаслоў" 1564 году, першае друкаванае выданьне ў 1588 годзе „Літоўскага Статуту" ды шмат чаго іншага.

Усе гэтыя нязвычайнае каштоўнасьці зборы ператрывалі ў цэласьці ваенную завіруху Першае сусьветнае вайны, ператрывалі яны навет гітлераўскую акупацыю ў Другой сусьветнай вайне, ведамую сваім культурным грабежніцтвам. Затое ня ператрывалі савецкага „вызваленьня".




**Выдадзены ў 1970 г. у Вільні альбом „Жывапіс Лятувы XVI-XIX стг.". Патрэт дзяўчыны з галінкамі вярбы на абгортцы (супэрвокладцы) альбому — гэта рэпрадукцыя алейнага абраза 1847 году. Цяпер абраз гэты знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музэі Лятувіскае ССР у Вільні. У кнізе нідзе не пададзена, што гэты ўводны да альбому абраз паходзіць із збораў зьліквідаванага па апошняй вайне савецка-лятувіскімі ўладамі Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні.**

Пасьля заняцьця савецкай арміяй Вільні напрыканцы мінулае вайны й аднаўленьня Лятувіскай ССР, Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча, як згадвалася тады ў друку, быў „расфармаваны", а ягоныя багатыя зборы перададзеныя розным лятувіскам установам. Гэтак ягоныя зборы народнага мастацтва апыніліся, як пацьвердзіў артыкул Віктара Говара, у Лятувіскім гістарычна-этнаграфічным музэі й да самага апошняга часу ня былі даступныя навет для навукоўцаў. Рукапісныя архіўныя фонды Музэю былі перададзеныя аддзелу рукапісаў цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навукаў Лятувіскай ССР, пра што даведваемся, між іншым, зь віленскага выданьня 1963 г. Акадэміі навукаў ЛССР „Описание инвентарей феодальных владений в Литве". У гэтай-жа цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навукаў ЛССР знаходзяцца сяньня й старадрукі Беларускага Музэю ў вадмысловым фоньдзе — „Віленскі беларускі фонд". Мастацкія абразы Беларускага Музэю трапілі ў Дзяржаўны мастацкі музэй Лятувіскай ССР, пра што даведваемся, між іншымі інфармацыямі, з выдадзенай у Вільні ў 1970 г. публікацыі „Живопись Литвы XVI-XIX в."

З усіх 255 фотарэпрадукцыяў народных тканінаў альбому „Лятувіскае народнае мастацтва — Тканіны", кніга I, Вільня 1957, адкуль узятая й зьмешчаная тут рэпрадукцыя народнага дывана з Ваўкавышчыны, гэта рэпрадукцыі каля ста дываноў беларускае Віленшчыны й Навагрудчыны. Шмат у альбоме беларускіх дываноў і сярод 50-ці тых, месца паходжаньня якіх наагул не падаецца. Дык штонайменш каля палавіны паказаных у кнізе „лятувіскіх" тканінаў — у запраўднасьці народныя тканіны беларускія. Гэта найлепшы довад, што бессаромным прысабечваньнем, побач зь вялікай часткай беларускай тэрыторыі й беларускай мінуўшчыны, і скарбаў беларускае культуры займаюцца ня толькі лятувіскія нацыяналістыя на эміграцыі, але ня грэбуюць гэтым ганебным заняткам і лятувіскія камуністыя.

Гэткая вось доля спаткала пасьля мінулае вайны Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні, што ўважаўся беларускім народам Заходняе Беларусі ягонай нацыянальнай сьвятыняй.

Але вось ужо пасьля надрукаваньня артыкулу Віктара Говара „Адвечная прыгажосьць", два месяцы пазьней у тэй-жа газэце „Літаратура і Мастацтва" за 8 сьнежня 1972 пад рубрыкай „Як брат — брату", уведзенай у сувязі з 50-мі ўгодкамі СССР, была перадрукаваная з газэты „Советская Белоруссия" за 25 ліпеня 1945 г. пад загалоўкам „Дар беларускаму народу ад Літоўскай ССР" кароткая зацемка, тэкст якой наступны: **„Больш як 20 гадоў у Вільнюсе існаваў Беларускі музэй. У музэі захоўвалася да 10 тысяч экспанатаў па гісторыі, этнаграфіі і археалёгіі. У веданьні музэю мелася багатая бібліятэка на рускай і беларускай мовах. Нядаўна Саўнарком Літоўскай ССР перадаў музэй і бібліятэку ў падарунак беларускаму народу. Восем тысяч экспанатаў і 36 тысяч кніг, якія складаюць фонд музэю, днямі адпраўлены зь Вільнюса ў Менск".**

Навет калі-б факты, пададзеныя ў гэтай зацемы, адпавядалі праўдзе, дык і тады была-б яна моцна нетактоўнай: ніколі не называецца „дарам" або „дарункам" тое, калі нейкая рэч зьвяртаецца ейнаму юрыдычнаму й фактычнаму собсьніку. У дадзеным выпадку словы „дар" і „дарунак" гучаць цынічна-зьдзекліва. Як відаць з артыкулу Віктара Говара й іншых прыведзеных намі друкаваных крыніцаў, усё асноўнае й найкаштоўнейшае, што было ў Музэі, засталося ў Вільні, як „собскасьць" Лятувіскай ССР. Не магло быць адпраўлена ў Менск і згаданых у зацемцы 36 тысячаў кнігаў. У згадваным артыкуле Антона Луцкевіча ў „Гадавіку" чытаем: **„Разам з кніжкамі Ів. Луцкевіча (пераважна старадрукі), часткай бібліятэкі Е. Р. Раманава і вялікім кнігазборам Барыса Даніловіча, бібліятэка пры Музэі складаецца з блізу 14 тысяч тамоў".** Пасьля 1933 году, у якім друкаваўся „Гадавік", як добра ведама мне асабіста, ніякага масавага прыплыву кнігаў у музэйную бібліятэку ня было. Тым ня менш, у надрукаванай у „Советской Белоруссии" ў 1945 г. зацемцы нейкая маленькая доля праўды магла й быць: праўдападобна гэныя адпраўленыя ў Менск кнігі — гэта й быў кнігазбор Барыса Даніловіча ў колькі разоў меншае колькасьці кнігаў на расейскай мове, якія для Лятувісаў ня мелі ніякае вартасьці, а таксама згадваныя ў артыкуле А. Луцкевіча **„архіўныя матарыялы беларускага адраджэнскага руху, дзяржаўнага будаўніцтва і грамадзкага жыцьця наагул"**, што маглі быць нязвычайна цэнным набыткам, хоць і для мэтаў зусім не навуковых, для НКВД-МДБ.

Мы перакананыя, што гэнае „расфармаваньне" Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіка й перадача ягоных скарбаў лятувіскім установам адбыліся не бязь ініцыятывы і ўдзелу лятувіскіх, хай сабе й савецкіх, нацыяналістычных колаў, ласых на чужое дабро. Падобная спроба была зробленая й 25 год раней — яшчэ ў часе першае кароткатрывалае бальшавіцкае акупацыі Вільні ў 1919 годзе. Аўтар дакладу „Пятнаццаць гадоў працы Беларускага Навуковага Таварыства" той-жа А. Луцкевіч, згадваючы пра паседжаньне ўраду Таварыства 31 сакавіка 1919 г. і Агульны сход сяброў Таварыства 3 красавіка 1919 г.,

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 6.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# „АДВЕЧНАЯ ПРЫГАЖОСЬЦЬ"

**Ад Рэдакцыі:** Пад гэткім загалоўкам малады беларускі мастацтвавед Віктар Говар надрукаваў у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 6 кастрычніка 1972 артыкул, які ніжэй перадрукоўваем. У сувязі з гэтым артыкулам друкуем у гэтым-жа нумары „Беларуса" й наш артыкул „Вярнуць заграбленае!"

„У слаўны юбілейны год літоўскі гістарычна-этнаграфічны музэй (у Вільні — Рэд.) у ваднэй із сваіх вялікіх заляў разгарнуў экспазыцыю з фондаў былога „Беларускага музэю", што арганізаваўся ў 1921 годзе ў Вільні на базе прыватнай калекцыі. Экспанаты гэтыя трапілі ў літоўскі музэй адразу пасьля вайны, у 1946 годзе, і доўгі час знаходзіліся ў запасьнікох, фактычна закрытых для наведвальнікаў. Сяньня-ж мы маем магчымасьць убачыць некаторыя ўзоры даўняга беларускага ткацтва, вышыўкі, нацыянальнага адзеньня, дываноў, паясоў, цырамікі.

Мне давялося трапіць у літоўскі музэй, калі навуковыя супрацоўнікі толькі складалі новую экспазыцыю, і зь ветлівага дазволу дырэктара музэю сфатаграфаваць шэраг цікавых экспанатаў.

Рэчы гэтыя, сабраныя ў васноўным у дарэвалюцыйныя часы, ахопліваюць значную тэрыторыю — да паўдзённых раёнаў Палесься, трапляюцца навет узоры ўкраінскія, уважліва абсьледваныя Горадзенская, Менская вобласьці, заходняя частка Віцебскай, Случчына і іншыя мясьціны. Уражае размах і аб'ём зьбіральніцкай дзейнасьці, сяньня гэта ў стане рабіць толькі буйны краязнаўчы музэй.

Надзвычайныя ткацтва і вышыўка. Беларускія ткачыхі дасягнулі пэўнай манумэнтальнасьці, важкасьці, значнасьці сваіх работ. Гэта рыса асабліва вабіць сяньня, калі ў разьвіцьці сучаснага дэкарацыйна-прыкладнога мастацтва назіраецца менавіта такая-ж тэндэнцыя. Старажытныя андаракі вытканы асабліва шчыльным перапляценьнем ваўняных або ільняных нітак, а ўзоры іх зроблены рэльефна, з туга спрадзенай воўны. Тканіна атрымліваецца надзвычай пругкая, кладзецца буйнымі прыгожымі складкамі. Асабліва цікавыя маларыцкія і жабінкаўскія андаракі, у якіх па падолах пушчаны адмысловы ўзор з разэтак, ромбаў і іншых геамэтрычных фігур даволі чыстых тонаў — яны добра падкрэсьліваюць асноўны чырвона-цагляны колер. У той-жа час гэты ўзор зрокава абцяжарвае ніжную частку андарака, ствараючы ўражаньне ўстойлівасьці, манумэнтальнасьці.

Карычняватыя ваўняныя дываны з Глыбокага таксама вельмі прыгожыя і таксама на дзіва сучасныя. Фон — гладкі або ў простую буйную рознакаляровую клетку няяркіх чыстых хварбаў, і па ім — тэхнікай перабору — кінуты асобныя ўзоры геамэтрычнага характару. Ніякай стракатасьці, усё стрымана, высакародна. Па клетачках буйны ўзор кладзецца толькі лініямі, што дазваляе пазьбегнуць стракатасьці і дасягнуць нязвычайнага эфэкту. Гэта амаль гатовыя арыгінальныя ўзоры для сучасных пледаў і бязворсавых дываноў, якія пасьпяхова маглі-б выпускаць беларускія хвабрыкі замест драпаў і некаторых ваўняных тканін, на што ў вапошні час значна панізіўся попыт.

У ваднэй зь вітрын — цэлы вадаспад тканых і плеценых з воўны паясоў, у васноўным чырвоных, але страчаюцца і зеленаватыя, і іншых прыгожых колераў. Найчасьцей яны бяз узораў, шырокія, цэнтымэтраў у пяць, і даўгія — імі можна было-б абкруціцца некалькі разоў. Пояс быў некалі неад'емным элемэнтам нацыянальнага ўбраньня, ім падпярэзваліся і па летняй сарочцы, і па сьвітцы — і жанчыны, і мужчыны. Лічылася, што такія паясы маюць сілу супраць дурнога вока.

Ручнікоў на выстаўцы шмат, з розных мясьцін, але найчасьцей палескія і з поўначы Беларусі. Побач зь імі — хвартухі і сарочкі, таксама, як і ручнікі, найбольш старажытныя віды нашага ткацтва і вышыўкі. З захапленьнем і нейкім навет зьдзіўленьнем назіраеш гэтую амаль фантастычную зьмену арнамэнтальных матываў, і ў той-жа час адчуваеш агульнае — аснову гэтых матываў, характэрную для пэўных рэгіёнаў. Вось вырабы з Маларыты. Тут сустракаюцца арнамэнтальныя фігуры, якіх няма больш нідзе па ўсёй Беларусі, палатно саткана ня чырвоным, а чорным узорам, масыўным, мудрагелістым, утвораным з адмысловых разэтак, ромбаў і іншых фігур. Іванава-мотальскія паласатыя ручнікі, чырвоныя акуратныя ромбы і зоркавыя разэткі ўкладзеныя ў няшырокія палосы.

А гэтыя ручнікі, відаць, зь Віцебшчыны. Так — Глыбокае, Браслаў, Дрысьвяты . . . Тут няма палос, узор вольна разьмяшчаецца па ўсёй плоскасьці ручніка або хвартуха. Тыя-ж ромбы, зоркавыя разэткі, але дэфармаваныя, а побач дык зусім дзівосны ўзор, што нагадвае нейкіх марскіх каракаціц, пераблытаныя водарасьці, стылізаваныя фігуркі людзей. Ручнікі даволі шырокія, арнамэнт буйны, кідкі, пераважвае чырвоны колер, кампазыцыя, адчуваецца, адшліфаваная многімі стагодзьдзямі — усе элемэнты прыведзены ў суладзьдзе. Неяк міжволі ўзьнікае пытаньне: чаму да гэтага часу мы не адкрылі гэтую багатую арнамэнтыку? Неглюбскія, палескія ручнікі — вядомыя, яны ходзяць з выстаўкі на выстаўку, а паўночныя беларускія ўзоры, такія дэкаратыўныя, нечаканыя, амаль невядомы да гэтага часу. Віцебскія дамы народнай творчасьці і мастацкай самадзейнасьці, краязнаўчыя музэі неяк яшчэ не даехалі да заходняга кутка сваёй вобласьці. На чарговыя выстаўкі народнай творчасьці звычайна зьбіраюцца экспанаты зь вядомых мясьцін. Дамы народнай творчасьці і музэі слаба абсьледуюць глыбінныя раёны. І вось вынік — сяньня мы амаль ня ведаем пра тыя ўзоры, што добра былі вядомы беларускім дасьледчыкам на пачатку веку.

Дарэчы, такое становішча ня толькі на Віцебшчыне. На недастаткова высокім узроўні праводзіцца вывучэньне народнай творчасьці ў Магілеўскай, Горадзенскай, Гомельскай, Манскай абласьцях. Краязнаўчыя музэі купляюць рэчы выпадковыя, у васноўным з выставак, арганізаваных дамамі народнай творчасьці і мастацкай самадзейнасьці. Няма імкненьня прасачыць нейкія заканамернасьці, характэрныя для пэўных рэгіёнаў, выявіць узаемаўплывы, вызначыць шляхі эвалюцыйнага разьвіцьця, мастацкія асаблівасьці народных твораў. Толькі Горадзенскі дом народнай творчасьці праявіў ініцыятыву, арганізаваўшы невялічкі музэй народнага мастацтва. У нашых-жа краязнаўчых музэях гэты разьдзел вельмі бедны, пададзены ў васноўным экспанатамі этнаграфічнымі, якія даюць слабае ўяўленьне аб мастацкай народнай творчасьці.

Цікавая ў экспазыцыі віленскага (у „ЛіМ"-е — „вільнюскага" — Рэд.) музэю беларуская цыраміка. З Наваградчыны — збаны, глякі, місы зь няхітрым ангобным росьпісам: нейкія галінкі зь лісточкамі і ягадкамі. На іх навет імянны подпіс ганчара Данілевіча. Ёсьць і некалькі ўзораў чорналашчыльнага посуду, вядомага і сяньня пад Берасьцем і Наваградкам. Прыцягваюць увагу сьвістулькі і дробная гліняная плястыка, сяньня амаль забытая. Усе рэчы глазураваныя, некаторыя ў дадатак пакрыты рознакаляровымі эмалямі і ангобнымі хварбамі, яны дэкарацыйныя, пацешныя. Некалі гэта былі цацкі для дзяцей, якія бацькі прывозілі зь вялікага кірмашу. Можна адзначыць агульную стылявую рысу, што яднае гэтых „барынь", „кавалераў", „коньнікаў", „козьлікаў". Яе, відаць, можна вызначыць тэрмінам „наіўны рэалізм". Майстры імкнуцца перадаць характар вобразу, асаблівую ўвагу зьвяртаючы на асобныя вонкавыя дэталі. Гліна дыктавала пэўную пластычную пабудову, і таму старажытная дробная цырамічная плястыка вызначаецца своеасаблівай стылізацыяй. Твары людзей, іх рукі, тулавы зроблены ўмоўна, без анатамічнай правільнасьці. Уся ўвага зьвернута на дэталі. Яны значна ўзбуйненыя. Вялізарныя гузікі, банты, аборкі, падкрэсьленыя яшчэ і колерам, зьяўляюцца асноўным дэкарацыйным акцэнтам, трапнай характарыстыкай героя пэўнага сацыяльнага асяродзьдзя. Фігуркі дасьціпна-назіральныя, гумарыстычна-незласьлівыя. Відаць, падобная гліняная дробная пластыка, мяркуючы і па іншых работах беларускіх ганчароў, зь якімі знаёмішся, напрыклад, у Магілеўскім краязнаўчым музэі, у калекцыі мастацтвазнаўцы І. Яламцавай, характэрна беларуская. Яна мае непаўторныя адметныя рысы. Было-б добра адрадзіць яе сяньня, зразумела, на нейкай новай аснове, зь нейкім новым колам вобразаў.

Хочацца пашкадаваць, што такая цудоўная калекцыя беларускага мастацтва — толькі часовая экспазыцыя. Неабходна, каб адзін з нашых музэяў, напрыклад, Дзяржаўны музэй БССР, узяўся за арганізацыю гэтай выстаўкі ў Менску, дадаючы яшчэ рэчы, што знаходзяцца ў фондах літоўскага музэю і ў сваіх уласных запасьнікох. А ўрэшце трэба стварыць пастаянную разгорнутую экспазыцыю беларускага народнага мастацтва розных рэгіёнаў нашай рэспублікі, дзе ўсебакова было-б паказана і традыцыйнае і сучаснае. Гэта вельмі неабходна, бо сяньня войструю патрэбу ў фальклёрных матарыялах адчуваюць і мадэлеры, і манумэнталістыя, і прыкладнікі, і скульптары, і наагул уся нашая мастацкая прамысловасьць. Сяньня многія мастакі самі выпраўляюцца ў беларускія вёскі шукаць тую базу, аснову, на якую можна абапірацца ў сваёй рабоце. Але ці шмат убачыш у двухдзённай камандзіроўцы, ды і многага ўжо ня знойдзеш . . ."

**Віктар Говар**

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ

## НА 80-Я ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ

18 лютага сёлета споўнілася 80 год ад нараджэньня ў 1893 годзе ў сялянскай сям'і на Мсьціслаўшчыне выдатнага беларускага пісьменьніка й літаратурнага крытыка Максіма Гарэцкага. У самым росквіце сваіх творчых сілаў Максім Гарэцкі быў у 1930 годзе арыштаваны савецкімі органамі бясьпечнасьці, як беларускі нацыянал-дэмакрат, і высланы на пяць год у Вятку. Пасьля адбыцьця тэрміну ў 1935 годзе, Гарэцкі жыў блізка БССР на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі й працаваў настаўнікам. Але ў 1937 годзе быў ён арыштаваны ўзноў. Памёр ён 20 сакавіка 1939 году на выгнаньні ў бліжэй няведамых абставінах.

Роля й значаньне Максіма Гарэцкага ў гісторыі беларускай літаратуры вельмі вялікія. Хаця пачаў ён друкавацца толькі ў 1912 годзе, зьмяшчаючы ў „Нашай Ніве" сваё апавяданьне „У лазьні", а першыя празаічныя творы Якуба Коласа пачалі зьяўляцца шэсьць год раней — у 1906 годзе, месца абодвых пісьменьнікаў у жанры мастацкай прозы нашаніўскага пэрыяду бадайшто роўнае.

Ды цяжка, аднак, знайсьці аднолькавыя крытэрыі дзеля прыраўнаньня абодвых пісьменьнікаў, бо паводля характару сваёй творчасьці былі яны розныя й адменныя. Якуб Колас у нашаніўскім пэрыядзе быў перадусім мастаком сялянскага жыцьця й быту беларускае вёскі, войстра стаўляючы пытаньні сацыяльнае крыўды й нацыянальнага паняволеньня беларускага народу. Абсяг тэматыкі й праблематыкі ў творах Максіма Гарэцкага быў куды шырэйшы й больш разнастайны ды, апрача сялянскага асяродзьдзя, ахопліваў пераважна сфэру інтэлігенцыі. Агульналюдзкія праблемы побач з праблемамі нацыянальнымі беларускімі, філязофская мэтафізыка побач з псыхалягічным аналізам людзкіх характараў, пытаньні сацыяльнага характару побач з узвышанымі пачуцьцямі каханьня — вось асноўныя тэмы ў творах Максіма Гарэцкага. Апрача гэтага, пісьменьнік часта распрацоўваў у сваіх творах тэмы зь гісторыі Беларусі.

Апрача апавяданьняў на розныя з гэтых тэмаў, выдадзеных у 1914 годзе ў Вільні ў зборніку „Рунь", ды зборніку гістарычных апавяданьняў з часоў прыгону „Досьвіткі", выдадзенага ў 1926 годзе, Гарэцкі пісаў аповесьці й раманы, будучы адным з пачынальнікаў гэтых жанраў у новай беларускай літартуры. Гэтак у 1918 годзе выйшла спад ягонага пяра цікавая аповесьць „Ціхая плынь", у 1919 годзе — аповесьць „Дзьве душы", у 1926 годзе — запіскі „На імпэрыялістычнай вайне". Найбольшы ягоны твор — раман „Крыж", пачаты яшчэ да рэвалюцыі, быў закончаны ўжо на выгнаньні. Два апошнія свае творы — раман „Віленскія камунары" й незакончаны аўтабіяграфічны раман „Камароўская хроніка" пісаў Гарэцкі ўжо ў турме й на выгнаньні ў 1931-32 гадох. Пісаў Гарэцкі й драматургічныя творы, спасярод якіх асабліва вылучаецца глыбокім псыхалягічным аналізам драматургічная аповесьць „Антон".

Якуб Колас, як празаік, у нашаніўскім пэрыядзе фактычна працягваў традыцыі, што скла́ліся ў першых празаічных спробах ягоных папярэднікаў — Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца й Ядвігіна Ш., выдатна ўдасканальваючы гэтыя традыцыі, узбагачваючы іх у сюжэтнажанравых дачыненьнях ды паглыбляючы іхную сацыяльна-псыхалягічную напоўненасьць. Затое Максім Гарэцкі ў галіне беларускае прозы быў наватарам. Гэтае ягонае наватарства трапна падчыркнуў у выдадзенай летась працы калектыўнага аўтарства „Шляхі разьвіцьця беларускай савецкай прозы" малады крытык Міхал Мушынскі. „У гісторыі дакастрычніцкай прозы, магчыма, няма другога пісьменьніка, — пісаў Мушынскі, — які-б з такой сьмеласьцю спрабаваў прышчапіць на беларускай глебе новыя жанравыя формы. Гарэцкі— празаік у гэтых адносінах нечым нагадвае Багдановіча, паэты вялікай творчай культуры, паэты-наватара".

Да сказанага Мушынскім неабходна дадаць яшчэ й тую важную асаблівасьць, што ня было другога беларускага празаіка, апрача Максіма Гарэцкага, які гэтак глыбака ставіў беларускія нацыянальныя праблемы ў беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры й нясумяшчальнасьць гэтых праблемаў з бальшавіцкай нацыянальнай палітыкай у творах рэвалюцыйнага й першых год парэвалюцыйнага часу. Відаць, з прычыны гэтае нацыянальнае праблемнасьці Максім Гарэцкі ў працэсе рэгабілітаваньня ахвяраў сталінскага тэрору прадстаўляе сабой найбольш характэрны й бадайшто ўнікальны сваёй несамавітасьцяй выпадак. Гэта добра адзначыў у ненадрукаванай у Савецкім Саюзе сваёй прамове на 5-м зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ў 1966 годзе Васіль Быкаў, называючы няперавыдадзеныя й наагул нявыдадзеныя яшчэ творы Максіма Гарэцкага „шматпакутнымі . . . у шматпакутнай беларускай літаратуры". Максім Гарэцкі спасярод рэгабілітаваных пісьменьнікаў, быў часткава рэгабілітаваны адным з апошніх, ягонае рэгабілітаваньне праходзіла розныя фазы, часамі спынялася на паўдарозе й не даведзенае да канца й да апошняга часу.

Максім Гарэцкі ня толькі пісьменьнік, але й літаратурны крытык і гісторык літаратуры. Ягоная „Гісторыя беларускай літаратуры", упяршыню выдадзеная ў 1922 годзе ў Вільні, была першай узапраўды беларускай гісторыяй нашай літаратуры.

У выніку даўгіх пісьменьніцкіх стараньняў, пачатых у 1958 годзе, было выданьне ў 1960 годзе сьціплай таўшчынёй і фарматам кніжачкі ягоных твораў пад стандартным для рэгабілітаваных пісьменьнікаў загалоўкам „Выбранае". Зь вялікай колькасьці апавяданьняў пісьменьніка трапіла ў гэтае „Выбранае" ўсяго 14 апавяданьняў ды аповесьць „Ціхая плынь" з вычыркнутымі зь яе мясьцінамі з нацыянальнымі мамэнтамі. І толькі ў 1963 годзе быў надрукаваны ў „Полымі", а ў 65-м годзе ў выдадзены асобнай кніжкай раман „Віленскія камунары" ды ў 66-м годзе надрукаваны ў „Полымі" й ягоны раман „Камароўская хроніка". А ў 1968-м і 72-м гадох у „Полымі" зьявіліся некаторыя менш важныя творы Гарэцкага ды фрагмэнты й чарнавыя накіды незакончаных ягоных твораў. Навет найвыдатнейшы твор Максіма Гарэцкага — аповесьць „Дзьве душы", што паводля паведамленьня ў друку яшчэ ў 1960 годзе меўся выйсьці хутка з друку, не зьявіўся й да сяньня. Не зьявілася й ягоная драматургічная аповесьць „Антон", а таксама вялікая колькасьць найлепшых апавяданьняў.

Роўна дзесяць год таму Максім Лужанін пісаў у „Полымі": „У лютым споўнілася 70 год з дня нараджэньня Максіма Гарэцкага. Думаецца, што гэта дата новага нараджэньня пісьменьніка для літаратуры, для чытача". Нажаль, навет сёлетнія 80-я ўжо ўгодкі ад нараджэньня Максіма Гарэцкага ня стануцца яшчэ, як відаць, гэнай „датай новага нараджэньня пісьменьніка". У „Зборы твораў у двух тамох" Максіма Гарэцкага, што фігуруе ў тэматычным пляне выдавецтва „Мастацкая літаратура" й мае выйсьці ў другім квартале сёлетняга году, не знаходзім ягонае аповесьці „Дзьве душы" й драматургічнай аповесьці „Антон". А тымчасам поўнага абраза беларускай літаратуры пэрыяду „Нашай Нівы, часоў Першае сусьветнае вайны ды першых год пасьля яе бяз гэтых твораў Максіма Гарэцкага ўявіць нельга.

Гэтак выглядаюць на практыцы нябывалыя дабрадзействы г. зв. ленінскае нацыянальнае палітыкі для разьвіцьця беларускай культуры. Трэба, аднак думаць, што заўсёды руплівая для справы роднай літаратуры беларуская пісьменьніцкая грамадзкасьць, якая праявіла гэтак шмат ініцыятывы й стараньняў дзеля рэгабілітацыі й перавыданьня твораў Максіма Гарэцкага, ня спыніць сваіх захадаў, каб усе творы гэтага пісьменьніка сталіся здабыткам беларускай літаратуры й чытачоў.

**Раман Шарупіч**

### МАЛІТВЫ ЗА МІР

Ува ўсіх беларускіх царкоўных прыходах у ЗША 27 студзеня сёлета былі адслужаныя малебны з нагоды спыненьня ветнамскае вайны й падпісаньня мірнае ўмовы.

# ВЯРНУЦЬ ЗАГРАБЛЕНАЕ!

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

піша: **„Абодва сходы былі выклікаены тым, што, як відаць з пратакольных заметак, пісаных рукой В. Іваноўскага, літоўскія дзеячы д-р Басановіч і Нагевіч выступілі перад бальшавіцкімі ўладамі з дамаганьнем засэквэстраваньня музэю і бібліятэкі Т-ва, каб тыя пасьля ўвайшлі ў склад праектаванага дзяржаўнага музэю Савецкай Літвы".** Чаго лятувіскім нацыяналістым не ўдалося зрабіць тады з прычыны энэргічнага супраціву беларускага грамадзтва, лёгка яны дабіліся пасьля мінулае вайны.

Не зважаючы, аднак, на тое, чые былі ініцыятыва й захады ў разграбленьні Беларускага Музэю, галоўнымі віноўнікамі гэтага злачынства былі бальшавікі, як поўныя гаспадары палажэньня.. Крыўда гэтая была зробленая беларускаму народу яшчэ за Сталінам. А афіцыйна цьвердзіцца яшчэ й сяньня, што пасьля XX зьезду КПСС і асуджэньня г. зв. культу Сталіна наступіла ў Савецкім Саюзе поўнае аднаўленьне сацыялістычнай законнасьці. Таксама афіцыйна цьвердзіцца, што г. зв. ленінская нацыянальная палітыка партыі, што прыйшла на зьмену сталінскай нацыянальнай палітыцы, шчыра клапоціцца пра патрэбы нацыянальнай культуры ўсіх народаў СССР. Гэтыя свае заявы якраз маюць цяпер магчымасьць давесьці на практыцы ЦК Камуністычнай партыі Беларусі і ЦК Камуністычнай партыі Лятувы, аднаўляючы Беларускі Музэй у Вільні на базе ўсіх ягоных фондаў, што былі ў ім перад ягоным „расфармаваньнем". Сваё аўтарытэтнае слова павінны сказаць у гэтай справе і адпаведныя арганізацыі і ўстановы ў БССР, перш-наперш Акадэмія навукаў Беларускай ССР.

Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча ўсёй сваёй гісторыяй і абсягам дзейнасьці арганічна быў зьвязаны зь Вільнай — культурным цэнтрам Заходняе Беларусі. У Вільні павінен ён быць і адноўлены.

**Ст. Станкевіч**

# ПРА ІХ ТРЭБА НАМ ВЕДАЦЬ



Карыстаючыся савецкай і заходнянямецкай (мюнхэнскай) прэсай, удалося мне ўдакладніць і высьніць некаторыя факты ў сувязі з выступленьнямі беларускіх гімнастак на апошніх алімпійскіх спаборніцтвах у Мюнхэне.

Жаноцкая алімпійская каманда Савецкага Саюзу ў галіне спартовай гімнастыкі на алімпіядзе складалася з шасьці асобаў. Зь іх тры — беларускія дзяўчаты. На зьмешчаным вышэй фотаздымку стаяць яны побач у цэнтры зьлева направа: **Вольга Корбут з Горадні, Антаніна Кошаль зь Менску й Тамара Лазаковіч зь Віцебску.** Здымка была зробленая на фоне будынку Цэнтральнага Камітэту Камсамолу Беларусі перад ад'ездам у Мюнхэн. Іншыя тры — гэта зьлева **Эльвіра Саадзі з Грознага,** сталіцы Чэчэна-Інгускай Аўтаномнай Рэспублікі на Паўночным Каўказе, далей **Люба Бурда з Ташкенту,** сталіцы Узбэцкай Саюзнай Рэспублікі, а першая з правага боку — **Людміла Турышчова з Варонежу** — Расейка.

Дык палавіну алімпійскай каманды ў гімнастыцы склалі Беларускі, і дзякуючы ім каманда сталася чэмпіёнам сьвету. Пра іх, гэтых найвыдатнейшых з выдатных беларускіх гімнастак нам і трэба ведаць. За імі стаяць тры найлепшыя трэнары Савецкай Беларусі, сотні беларускіх гімнастак, тысячы школьнікаў із школаў, дзе вучыліся яны й вучацца далей, і сотні тысячаў жыхароў іхных родных гарадоў — Менску, Віцебску й Горадні, што дзякуючы ім сталі ведамымі цэламу сьвету.

Дарога да выступленьняў на алімпіядах была нялёгкай. Вялікай і ўпорыстай працы спатрэбілася, каб узьняць беларускі спорт на сучасны ўзровень. Пачатак тут зрабіў выдатны трэнар **Ранальд Кныш,** які й да сяньня працуе ў гэтай галіне ўсё ў тэй-жа Горадні. Ён і трэнар Вольгі Корбут. Ягоная заслуга асабліва ў тым, што ён першы здолеў давесьці практыкаваньні 12-15цігадовых дзяўчат да ўзвышша майстроўства. Ягоная вучаніца **Алена Валчэцкая** ў 14 гадоў стала чэмпіёнкай Беларусі й трымала гэты чэмпіянат аж пяць гадоў, а на ўсесаюзным спаборніцтве здабыла залаты мэдаль у апорным скоку. Былі й іншыя выдатныя спартсмэнкі ў Горадні. Да трэнара Кныша прыяжджалі вучыцца й радзіцца іншыя трэнары Беларусі, адным зь якіх быў віцеблянін **Вінцэнт Дзьмітрыеў.** У 1964 годзе ён прывёз на ўсесаюзную спартакіяду 15-цігадовую вучаніцу **Ларысу Петрык,** якая апярэдзіла ўсіх сваіх канкурэнтак і сталася абсалютнай чэмпіёнкай Савецкага Саюзу. Яшчэ ніколі ў гісторыі гімнастыкі ня было такога выпадку, каб 15-цігадовая дзяўчына сталася чэмпіёнам краю.

У тым-жа 1964 годзе пачала ў Дзьмітрыева вучыцца маленькая 10-цігадовая **Тамара Лазаковіч.** Віцебск стаўся цэнтрам беларускай гімнастыкі. Пазнаёмімся бліжэй з Тамарай Лазаковіч (Лазяй, як празвалі яе сяброўкі). Ужо ў 1966 годзе прывезьлі яе маленькую зь белымі, як лён, валасамі на юнацкае пяршынства Беларусі, але першае выступленьне не ўдалося. Затое на другі год на спартакіядзе школьнікаў у Ленінградзе яна атрымала бронзавы мэдаль, а стуль паехала ў Маскву на 4-ю спартакіяду. Калі яе там спыталі, за якое месца яна будзе змагацца, яна адказала: „Вядома, за першае!" Не атрымала малая Лазя першага месца й ад злосьці кінулася ў сьлёзы, але ўсё-ж трапіла ў шасьцёрку мацнейшых. Ёй было ўсяго 14 гадоў, а іншым гімнасткам па 18. Між імі была й Ларыса Петрык, якую заўсёды капіявала Тамара. Хутка ўзьнімалася новая зорка. У 1968 годзе на пяршынство Савецкага Саюзу сярод дзяўчат атрымала яна ўсе пяць залатых мэдаляў. У 1970 годзе атрымала першы мэдаль для дарослых — залаты мэдаль у практыкаваньні на бервяне, а ў 1971 сталася абсалютнай чэмпіёнкай Савецкага Саюзу, а ў восені таго-ж году ўзьнялася да гонару чэмпіянату Эўропы ў Менску. Некаторыя замежныя журналістыя назвалі яе тады „цудам з цудаў".

На алімпіяду ў Мюнхэн ехала Тамара, як лідэр каманды, як чэмпіён з высокімі надзеямі. Чэмпіёнкай сьвету ёй стацца не ўдалося, хоць была фаварытам і пасьля дыскваліфікацыі Вольгі Корбут мела роўныя шансы зь Немкай з Усходняй Нямеччыны Карын Янц, але сталася інакш: залаты мэдаль і чэмпіёнства сьвету атрымала Людміла Турышчова, а Тамара Лазаковіч — толькі бронзавы. Паводля гэтае ацэнкі сталася яна трэйцяй у сьвеце паводля свайго ўмельства. У індывідуальных спаборніцтвах ў практыкаваньні на бервяне атрымала яна сярэбраны мэдаль (Вольга Корбут — залаты). Яшчэ адзін бранзовы мэдаль атрымала яна за практыкаваньні на падлозе за Вольгай Корбут і Людмілай Турышчовай.

Пра **Антаніну Кошэль** зь Менску й ейным трэнары **Віктару Хамутову,** нажаль, не ўдалося мне сабраць даволі матарыялу. Згадваецца яна, як і Вольга Корбут, у беларускім савецкім часапісе „Маладосьць", як магчымая канкурэнтка Тамары Лазаковіч, гатовая забраць у яе ўсесаюзны чэмпіянат. Ёй даводзілася цірааз выступаць першай на спаборніцтвах, а судзьдзі звычайна скупяцца ў такіх выпадках з ацэнкамі. Яна выпускніца сярэдняй рэспубліканскай школы-інтэрнату із спартовай накіраванасьцяй. Ёй усяго 17 гадоў. На алімпіядзе засталася яна з адным залатым мэдалем, атрыманым для ўсяе каманды.

Пра **Вольгу Корбут** і ейныя перажываньні на алімпіядзе можна было прачытаць ў № 185 „Беларуса" за верасень летась. Гэтта хачу адно дадаць адзін характэрны выпадак, калі судзьдзі на алімпіядзе несправядліва пакрыўдзілі Вольгу. Падчас практыкаваньняў на няроўных штангах Вользе Корбут, Расейцы Людміле Турышчовай і Немцы з Усходняй Нямеччыны Карын Янц спачатку былі прысуджаныя роўныя ацэнкі: па 9.80 пунктаў кажнай. Пазьней гэтая ацэна была зрэвідаваная на карысьць Немкі, якой была яна павышаная да 9.90 коштам нашай Беларускі, у выніку чаго Карын Янц атрымала залаты мэдаль, а Вольга Корбут — толькі сярэбраны. Гэтая несправядлівасьць выклікала нябывалае ў гісторыі алімпійскіх гульняў абурэньне й пратэст аўдыторыі, што пазьней адна з судзьдзяў, прадстаўніца Ўсходняй Нямеччыны, што сваймі махінацыямі спрычынілася да рэвізіі ацэнак, была навет выкінутая із складу журы.

Не зважаючы на гэта, Вольга Корбут у суме здабыла тры залатыя мэдалі й адзін сярэбраны і галоўнае — сэрцы цэлага сьвету. Яшчэ да апошняга часу пра яе часта зьяўляюцца артыкулы разам зь ейнымі фотаздымкамі ў амэрыканскіх газэтах. Журналістыя 40 краёў, што ўдзельнічалі ў традыцыйнай анкеце часапісу „Ўорлд Спортс", аднадушна прызналі ёй годнасьць „Спартсмэнкі 1972 году". А амэрыканскае агенцтва „Асошыэйтыд Прэс" бальшынёй галасоў (журналістых і тэлевізыйных рэпартэраў) прызнала ёй узнагароду й годнасьць „Жаноцкай Атлеткі 1972году": Вольга Корбут атрымала 222 галасы, тады калі найбольш небясьпечныя ейныя канкурэнткі — амэрыканская чэмпіёнка тэнісу Білі Жэн Кінг — 202 і аўстралійская плывачка Шэйн Гулд — 118 галасоў. Узнагарода гэтая была ўфундаваная ў 1931 годзе, а Вольга Корбут была першай з-за зялезнай заслоны й шостай чужаземкай, што была дастойная гэтую ўзнагароду атрымаць.

Пра маладых чэмпіёнак-Беларусак ведаць нам трэба, бо яны ўмельствам сваім, сьціпласьцяй і прыгаством характару далі выдатны прыклад Беларускі. З годнасьцяй рэпрэзэнтуюць яны перад сьветам родную Беларусь, свае гарады, дарма што выступаюць пад агульнасавецкай маркай.

У сакавіку сёлета можна будзе, хто пастараецца, пабачыць Вольгу Корбут, якая разам зь іншымі 6-ма спартсмэнкамі й 6-ма спартсмэнамі із Савецкага Саюзу наведае Нью Ёрк і будзе выступаць зь гімнастычнымі практыкаваньнямі ў Мэдысон Сквэр Гардэн.

**Зіна Станкевіч**

# ПАЧЫНАЮЧЫ НОВЫ ГОД ПРАЦЫ

**Пасьля даўжэйшага нярэгулярнага выдаваньня, а пазней і спыненьня выхаду газэты „Беларус", у лістападзе 1963 году было аднаўленае ейнае выданьне як рэгулярнае месячнае газэты. Новыя ейныя выдаўцы й рэдактары, аднаўляючы „Беларуса", разьлічвалі на належнае маральнае й матарыяльнае падтрыманьне шырокіх колаў беларускага грамадзтва. І гэтае падтрыманьне было дадзенае.**

**Вось ужо мінула поўных дзесяць і пачаўся адзінаццаты год, як „Беларус", перамагаючы розныя цяжкасьці, рэгулярна выходзіць і абслугоўвае патрэбы беларускае эміграцыі. „Беларус" годна рэпрэзэнтуе беларускае імя перад сьветам і раскрывае народагубную палітыку чырвонае Масквы на Беларусі, прыймаючы гэтым актыўны ўдзел у антыбальшавіцкім змаганьні. Найвышэйшым ідэалам, якому газэта непахісна служыць — вольнасьць і дзяржаўная незалежнасьць нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны.**

**Дацэньваючы гэтую нацыянальную ролю газэты, нашае грамадзтва ўвесь час аказвала ёй патрэбную дапамогу. Але каб газэта магла існаваць далей, неабходна, каб дапамога гэтая ня толькі ня спынялася, а й адпаведна павялічалася. За апошніх дзесяць год цэны ў ЗША значна ўзрасьлі, у некаторых выпадках навет падвоіліся. Прыкладам, калі ў першых гадох аднаўленьня выхаду газэты кошт паштовае перасылкі аднаго экзэмпляра газэты выносіў 4 цэнты, дык сяньня — 8 цэнтаў. Кошты друку за гэты час узрасьлі больш чымся на 30%. Не зважаючы на гэта, мы і ў сёлетнім годзе пакінулі дасюлешнюю вышыню падпіскі — $ 6.00 на год, каб гэтым даць магчымасьць выпісваць яе й тым, каму цяжка плаціць за яе даражэй. Нам вельмі прыемна, што бальшыня нашых падпішчыкаў, добра разумеючы, што гэная афіцыйная падпіска $ 6.00 на год сяньня ўжо дэфіцытная, самі дабраахвотна паднялі сваю падпіску да $ 10.00 і больш, а некаторая іхная колькасьць ахвяроўвае сыстэматычна кажнага году і значна большыя сумы — па 50, 100, а навет 200 і больш даляраў — на Выдавецкі Фонд „Беларуса". Мы верым, што ахвярнасьць нашага грамадзтва для газэты ня толькі ня зьменшыцца й сёлета, а, у сувязі з ростам дарагоўлі, прыкметна павялічыцца.**

**Нам ведама, што многія Беларусы, навет нацыянальна сьвядомыя й шчырыя патрыёты свайго народу, ня выпісваюць „Беларуса", а некаторыя навет ня ведаюць пра ягонае існаваньне. Дзеля гэтага мы горача апэлюем да ўсіх нашых падпішчыкаў і ахвярадаўцаў заахвочваць і іншых выпісваць „Беларуса", а дзе гэта не паможа, прысылаць іхныя адрысы нам: мы будзем высылаць ім па тры чародныя нумары газэты, як пробныя, задарма, з тым, што калі ў міжчасе ня прышлюць яны падпіскі, далейшая высылка, пачынаючы з чацьвертага нумару, будзе спыненая.**

**Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"**

дэбютавала ў 20-ых гадох. Значыцца, на працягу 10-цігадовага пэрыяду 20-ых гадоў пісьменьніцкае папаўненьне ў беларускай літаратуры павінна выражацца лікам **119** пісьменьнікаў.

Да трэйцяе групы трэба залічыць пісьменьнікаў, што прыйшлі ў літаратуру ў пэрыядзе абсалютнай сталінскай дыктатуры. Найдаўжэйшы часам гэты пэрыяд, што абыймаў 22 гады — ад 1930 году й да сьмерці Сталіна ў сакавіку 1953 году, ня быў аднолькавы з гледзішча на тарнаваньне фізычнага тэрору. Насіленьне масавага фізычнага тэрору прыпадае на першую палавіну гэтага пэрыяду — 30-ыя гады. У 1930-ым годзе пракацілася першая хваля арыштаў і высылак значнае колькасьці беларускіх пісьменьнікаў, у 1933 годзе пракацілася другая хваля, а ў 1937-38 гадох бушавала крывавая яжоўшчына, у выніку якой адбыліся масавыя арышты, высылкі й навет расстрэлы некаторых зь іх. Дакладна сьцьверджана, што былі расстрэленыя ў падвалах менскае турмы Міхась Чарот, Платон Галавач і Алесь Салагуб. Пасьля яжоўшчыны арышты сярод пісьменьнікаў спыніліся, але палітычныя абставіны й маральны тэрор засталіся фактычна тыя-ж. Ваенныя гады наагул ці варта браць пад ўвагу, калі дэбютаваў толькі адзін пісьменьнік Алесь Астапенка ў 1942 годзе. Удушлівая палітычная й маральная атмасфэра ды поўнае пазбаўленьне творчае свабоды характарызавалі й паваенныя гады Ждановскай рэакцыі, а таксама й пазьнейшыя аж да сьмерці Сталіна.

У гэтым звыш 22-ухгадовым пэрыядзе прыйшло ў літаратуру, паводля даведніка, 138 новых пісьменьнікаў.

Але ад гэтага ліку трэба адняць штонайменш 14-ёх пісьменьнікаў Заходняе Беларусі, што пачалі сваю творчасьць у вабставінах не савецкіх, і толькі ад 1939 году, у сувязі з далучэньнем Заходняе Беларусі да БССР, сталіся савецкімі пісьменьнікамі. Да гэтае групы належаць Максім Танк, Піліп Пестрак, Янка Брыль, Міхась Васілёк, Міхась Машара, Ніна Тарас і іншыя, а таксама і Ўладзімер Жылка, Алесь Салагуб ды колькі іншых, што апынуліся ў БССР да 1939 году. Затое ня ўведзеныя ў даведнік каля 5-ёх пісьменьнікаў (Андрэй Мрый і іншыя), што дэбютавалі ў 30-ых гадох, але былі ў часе яжоўшчыны арыштаваныя й дасюль не рэгабілітаваныя. Бяручы ўсё гэта на ўвагу, можна ўдакладніць, што за ўвесь 22-ухгадовы пэрыяд прыйшло ў беларускую савецкую літаратуру **129** пісьменьнікаў, амаль гэтулькі, колькі за папярэдні 10-ёхгадовы пэрыяд.

Палажэньне грунтоўна зьмянілася пасьля Сталінавае сьмерці, асабліва ў першай палавіне й сярэдзіне 60-ых гадоў у часе найбольшага ўздыму дэсталінізацыі. Даведнік называе 76 новых пісьменьнікаў, што прыйшлі ў літаратуру ад Сталінавае сьмерці й да 1968 году ўлучна, якім і замыкаецца даведнік. Але колькасьць гэтая вельмі далёкая ад запраўднай. Рэч у тым, што галоўнай і абавязваючай крытэрыяй улучэньня пісьменьнікаў у даведнік — іхнае належаньне да Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. А каб быць прынятым у Саюз пісьменьнікаў, неабходна мець ня менш аднэй, а то й дзьвюх выдадзеных кніжак твораў. Агульна-ж ведама, што на выхад з друку кніжкі твораў асабліва маладых пісьменьнікаў, як правіла, даводзіцца чакаць па тры-чатыры гады ад здачы рукапісу ў выдавецтва. Творы-ж, друкаваныя ў часапісах адно, на ўвагу не бяруцца. У сувязі з гэтым 32-ух пісьменьнікаў, што да 1968 году выдалі першыя свае кніжкі, але ня былі яшчэ прынятыя ў Саюз пісьменьнікаў, даведнікам не абнятыя.

Ня ўведзеныя ў даведнік і тыя маладыя пісьменьнікі, што былі актыўныя ў літаратуры ад колькіх год ужо й друкаваліся ў часапісах ды выявілі бясспрэчны літаратурны талент, але да 1968 году ня выдалі яшчэ першых кніжак сваіх твораў. Паводля нашага падліку гэткіх пісьменьнікаў 58. Спасярод усіх пісьменьнікаў, не абнятых даведнікам, 44-ёх былі прынятымі ў Саюз пісьменьнікаў Беларусі ўжо пасьля 1968 году.

Але пасьля 1968 й да канца 1972 году паказалі сябе даволі таленавітымі й творча актыўнымі 70 маладых пісьменьнікаў, а зь іх 13-ёх выдалі ўжо й першыя свае кнігі. У гэты лік 70-ёх залічаем часткава тых пісьменьнікаў, што дэбютавалі яшчэ перад 1969 годам, але не даволі сябе выявілі тады, а часткова тых, што дэбютавалі пасьля 1968 году й добра выявілі свае пісьменьніцкія якасьці.

Сумуючы ўсе гэтыя лікі разам, прыходзім да сьцьверджаньня, што беларуская літаратура на працягу 19-цігадовага пасьлясталінскага пэрыяду да 1972 году ўлучна папоўнілася колькасьцяй **236**-ёх пісьменьнікаў супраць 129-ёх пісьменьнікаў, што прыйшлі ў літаратуру на працягу 22-ухгадовага сталінскага пэрыяду.

Паводля нашага падліку ды бяручы на ўвагу як тых, што фігуруюць у даведніку, гэтак і тых, што ў даведнік ня ўведзеныя, прыходзім да сьцьверджаньня, што за ўвесь звыш 50-цігадовы савецкі пэрыяд творча актыўных было ў беларускай літаратуры **518** пісьменьнікаў (паводля даведніка — 325), зь іх 378 жывуць і творча актыўныя сяньня.

Калі ходзіць пра пісьменьнікаў пасьлясталінскага пэрыяду, галоўна пасьля 1968 году, дык устаноўленая намі колькасьць неабнятых даведнікам 160 пісьменьнікаў, магчыма трохі заніжаная. З прычыны немагчымасьці ў нашых абставінах на Захадзе пазнаёміцца з усімі творамі маладых і пачынаючых пісьменьнікаў, што друкуюцца ня толькі ў рэспубліканскіх, а і ў вабласных і раённых газэтах (гэтыя апошнія нам не даступныя), у дачыненьні да некаторых зь іх мы не маглі ўпэўніцца, ці маюць яны даволі дадзеных, каб залічыць іх да выкляраваных ужо пісьменьнікаў або паэтаў. У гэткіх выпадках некаторых літаратурных пачаткоўцаў мы пакінулі вонках нашага падліку.

А гэткіх пачаткоўцаў вельмі шмат і колькасьць іхная ўсьцяж расьце. Першы рэцэнзэнт даведніка „Пісьменьнікі Савецкай Беларусі" Генадзь Кахаecon ноўскі ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 23 кастрычніка 1970 году пісаў: „Даўно вёўся і вядзецца мною ўлік літаратараў, якія пісалі і пішуць зараз на беларускай мове. На сяньняшні дзень лічба гэтая стала вельмі буйная — 2.310!" Трэба думаць, што значная частка ўстаноўленае Генадзём Кахаnoўскім лічбы якраз і датычыць да тых літаратурных пачаткоўцаў, якіх мы сьведама пакінулі вонках нашага агляду, як дастаткова яшчэ ня выкляраваных як пісьменьнікі. Але пройдзе колькі год, і некаторая іхная частка дасягне дастатковага пісьменьніцкага ўзроўню, у дачыненьні да якіх ня будзе ніякіх сумляваньняў у іхнай пісьменьніцкай паўнацэннасьці.

Пры шмат якіх раённых і абласных газэтах існуюць сяньня мясцовыя пісьменьніцкія аб'яднаньні, некаторыя зь якіх дасягаюць па колькі дзесяткаў сяброў. Сярод іх ёсьць здольныя й таленавітыя паэты й празаікі, як можна мяркаваць з часта друкаваных у „Літаратуры і Мастацтве" іхных апавяданьняў, нарысаў і падборак вершаў. З гэтага асяродзьдзя ў недалёкай будучыні выйдуць бясспрэчна паўнавартасныя высакакваліфікаваныя майстры роднага слова.

Інтэнсыўны рост беларускіх пісьменьнікаў у пасьлясталінкім пэрыядзе ня мог быць спынены навет зьменай на горшае палітычнага курсу ў дачыненьні да літаратуры, што пачаўся ўжо ў другой палавіне 60-ых гадоў і завайстраецца з кажным наступным годам. А гэта найлепшы довад, што сярод маладога й наймалодшага пісьменьніцкага пакаленьня ўсьцяж паглыбляецца пачуцьцё нацыянальнага патрыятызму, узмацняецца імкненьне да штораз большага выяўленьня нацыянальнае існасьці ў літаратуры, як рэакцыя супраць абнаглелай русыфікацыі.

У вабставінах інтэнсыўнае русыфікацыі й нацыянальнае дыскрымінацыі ў БССР бясспрэчным фактам ужо тое, што адно ўжо колькасны рост літаратуры ў сваёй роднай мове навет незалежна ад ейнага зьместу становіць немалое нацыянальнае дасягненьне. Але й зьмест творчасьці маладых і наймалодшых паэтаў і пісьменьнікаў, што апошнімі гадамі шчодра папаўняюць беларускую літаратуру, у значна большай ступені беларускі, чымся ў пісьменьнікаў старэйшых пакаленьняў.

**Ст. Станкевіч**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Удзел Беларусаў ЗША ў прэзыдэнцкіх выбарах леташняга году** адзначаны ў сьнежанскім нумары „Месячнага Бюлетэню" Рады Нацыянальных Групаў Рэспубліканскае партыі. У бюлетэні паведамляецца, што беларуская група паводля выпаўненьня квоты (квота была 800 чалавек) заняла другое месца сярод 29 нацыянальнасьцяў, даўшы больш за 700 дабраахвотнікаў для перавыбарнае кампаніі. Паводля абсалютнае колькасьці дабраахвотнікаў, беларуская група стаіць на восьмым месцы.

Залатыя дыплёмы за ўдзел у выбарнай кампаніі здабылі сп. Рыгор Арцішэнка з Саўт Рывэру, сп. Анатоль Плескачэўскі зь Ірвінгтону і др. Вітаўт Кіпель з Радэрфорду, штат Нью Джэрзі. Кажны з адзначаных залатым дыплёмам завэрбаваў панад 50 дабраахвотнікаў. Сярэбраны дыплёмы (за 25 і больш дабраахвотнікаў) дасталі сп-ня Зора Кіпель і сп. Міхась Бахар.

**Выйшла з друку чацьвертая кніга другога тому „Журналу Беларусаведы" ў Лёндане.** У кнізе: артыкулы Аляксандра Надсона пра Скарынаву „Малую падарожную кніжыцу" (зь ілюстрацыямі), Мошы Альтбаўэра пра мову Скарынавых перакладаў Бібліі, Джэй Дынглі „Дзьве вэрсіі Граматыкі Славэнскае Івана Ужэвіча", Рабэрта Патры--Тумашанскага пра віленскага філёзафа Анёла Доўгірда; справаздача зь дзейнасьці Англа-Беларускага Таварыства, якое выдае „Журнал Беларусаведы"; багаты разьдзел рэцэнзіяў і беларускае культурнае хронікі. Часапіс можна выпісаць, зварачаючыся на наступны адрыс:

Mr. J. Michaluk
11 Ridgeview Rd.
London, N. 20. England

**Міжнародна ведамая беларуская спартсмэнка Вольга Корбут наведае Злучаныя Штаты** ў складзе савецкае спартовае дэлегацыі. Пра гэта паведаміла газэта „Нью Ёрк Таймс" за 2 лютага сёлета. В. Корбут прыбудзе ў Амэрыку ў складзе савецкае дэлегацыі з 23-х асобаў, сярод якіх — 12 спартсмэнаў. Савецкія гімнасты выступяць у гарадох Амэрыкі, у тым ліку ў Нью Ёрку ў Мэдысан Сквэр Гардэн 23 сакавіка.

Нядаўна ў амэрыканскіх газэтах шмат пісалі пра Вольгу Корбут у сувязі з тым, што карэспандэнты амэрыканскага тэлеграфнага агенцтва „Асошыэйтэд Прэс" назвалі Вольгу Корбут найлепшай спартсмэнкай 1972 году.

**Інжынер Васіль Мельяновіч на працягу сьнежня-студзеня зрабіў сэрыю дакладаў пра Беларусь** у сярэдніх школах штату Мэрылэнд. Паводля атрыманых намі вестак лекцыі прайшлі на высокім пэдагагічным узроўні. У некаторых школах аўдыторыя перавышала 150-200 вучняў. Паводля плянаў штатнага Аддзелу Асьветы, сэрыя беларусаведных лекцыяў будзе працягвацца далей у лютым і сакавіку ў новых акругах штату.

**Беларускіх навукоўцаў на пашыраным паседжаньні Акадэмічнага Саюзу за Раўнапраўе Выкладніцкага Пэрсаналу,** што адбылося ў Нью Ёрку 15 студзеня сёлета, прадстаўляў др. Вітаўт Кіпель. У Саюзе згуртавана блізу сто тысячаў выкладчыкаў і бібліятэкараў сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў. Галоўная мэта гэтае арганізацыі — устанаўленьне прынцыпаў прыйма на працу й падвышэньня на службе. На паседжаньні др. Кіпель паінфармаў пра арганізацыйны стан і дзейнасьць навукоўцаў-Беларусаў у Злучаных Штатаў.

**Справу арганізаваньня фонду для друкаваньня матар'ялаў пра патрэбы нацыянальных групаў Амэрыкі** разглядае цяпер Нацыянальная Канфэдэрацыя Этнічных Групаў ЗША. Прапанову стварыць гэткі фонд, як паведамляе бюлетэнь Канфэдэрацыі, падаў др. Вітаўт Кіпель, віцэ-старшыня гэтае арганізацыі.

**Маладзежны ансамбль беларускіх поп-музыкаў „Сакавік" у Лёндане пад кіраўніцтвам вучня лёнданскае Беларускае Гімназіі Марка Саўкі-Міхальскага** выступіў на міжнацыянальным фэстывалі народных песьняў і танцаў народаў цэнтральнае Эўропы й Савецкага Саюзу. Канцэрт адбыўся ў Лёндане на пачатку сьнежаня летась у лёнданскім Гаўманцкім Дзяржаўным Тэатры. Ансамбль „Сакавік" выступіў на канцэрце зь вялікай удачай.

**Пол Нэдвэл, супрацоўнік украінскае газэты „Амэрыка",** што выходзіць паангельску ў Філядэльфіі, зьмясьціў у гэтай газэце за 18 студзеня сёлета вялікі артыкул пад заг. „Супраціў русыфікацыі на Беларусі сяньня вельмі актыўны".

**Пра завайстрэньне ідэалягічнага змаганьня ў сьвеце, а разам з тым і на Беларусі,** пішацца ў вялікім артыкуле ў менскай газэце „Зьвязда". Артыкул п. з. „Крывое люстэрка імпэрыялізму" напісалі С. Пачанін і Я. Гельбэрг, выкладчыкі ВНУ БССР. У артыкуле, між іншага, згадваецца Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, як адна з установаў, што ‚прыстасавалі' сваю дзейнасьць да 50-годзьдзя ўтварэньня СССР".

**Пра апанаваньне Расейцамі навукі ў БССР згадваецца ў канадзкай газэце „Стар-Фэнікс",** што выходзіць у гор. Саскатун у правінцыі Саскачэван. Газэта за 18 кастрычніка летась зьмясьціла артыкул Інрыд Яффэ — іэнтэрвю з Канадыйцам украінскага паходжаньня Іванам Каляскам, аўтарам колькіх кнігаў пра савецкую нацыянальную палітыку на Ўкраіне. Каляска, між іншага, сказаў, што з усіх навукоўцаў на Ўкраіне ‚адно 48 працэнтаў — Украінцы, тымчасам як на Беларусі — 46 працэнтаў навукоўцаў-Беларусаў, а ў Малдавіі — толькі 25 працэнтаў навукоўцаў-Малдаванаў.

**Беспрацоўе ў гарадох Беларусі становіць 3,3%,** паводля падлікаў эканамічных экспэртаў радыё „Свабода" (ЦДА 13/73), праведзеных на аснове матар'ялаў, надрукаваных у савецкім часапісе „Социалистический труд" № 12 за 1972 год.

**„Дэклярацыю чалавечых правоў" у беларускім перакладзе** разам зь перакладамі ў іншыя мовы (украінскую й літоўскую) мае намер выдаць польскі парыскі часапіс „Культура", пра што кажацца ў адзінаццатым леташнім нумары часапісу (б. 82).

**Каляровая здымка Беларускае Царквы Хрыста Спаса ў Чыкага** зьмешчаная ў часапісе „Мідвэст Магазын" за 7 студзеня сёлета. Часапіс выходзіць як дадатак да газэты „Чыкаго Сандэй Сан-Таймс". Фатаграфія беларускае царквы — адна зь ілюстрацыяў да артыкулу „Мовы вывесак".

**Паводля даўгавечнасьці беларускія жанчыны стаяць на чацьвертым месцы ў сьвеце** — пасьля жанчынаў Швэцыі (у сярэднім 76,54 году жыцьця), Нідэрляндцаў — 75,5, Ісьляндыі — 76,2, **Беларусі — 76 гадоў.** У ЗША — сярэдні век жанчыны — 74 гады.

Сярэдні век мужчыны на Беларусі — 69 гадоў (па цэлым СССР — 65). У ЗША сярэдні век мужчыны — 66,6 году.

Дадзеныя гэтыя — вынік статыстычнага абсьледваньня праблемы, праведзенага Задзіночанымі Нацыямі, пра што можна прачытаць у газ. „Нью Ёрк Таймс" за 1-га лютага сёлета.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Матар'ялы для разьдзелу „Што чуваць?" прыслалі: др. В. Жук-Грышкевіч, др. В. Кіпель, а. А. Надсон, сп.сп. П. Нэдвэл, Н. Латушкін, А. Маркевіч. Усім шчырая падзяка!

### ПОШУКІ

Сыноў **Браніслава Рамаоўскага** 1923 году нараджэньня й **Канстанціна Рамаоўскага** 1926 году нараджэньня, што раней былі ў Нямеччыне, шукае бацька Т. Рамаоўскі. Весткі слаць на адрыс:

T. Romanowski
97 Kemer Street
Belmont
W. Australia 6104.



*ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў МАНЧЭСТАРЫ*

## СЛУЦКІЯ УГОДКІ

У нядзелю 26 лістапада летась Беларуская калёнія ў Манчэстары (Ангельшчына) годна адзначыла ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Прат. а. Янка Абабурка, пасьля Божае Службы, адправіў паніхіду па слуцкіх змагарох і сказаў прынагоднае казаньне.

Пасьля гэтага адбыўся ўрачысты сход, які адчыніў і прачытаў прынагодны даклад старшыня мясцовага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі Хв. Кажаневіч. Памяць гераічных Случчакоў была ўшанаваная хвілінаю цішыні. Пасьля афіцыйнае часткі сход закончыўся сьціплым прыняцьцём.

## КАЛЯДЫ

У сыботу 30 сьнежня летась было зладжанае супольнае прыняцьцё для дзяцей, якое зарганізавала спня Кляра Кажаневіч з дочкамі Надзяй і Нірванай. Дзяцей сабралася каля паўсотні, і кажнае дзіця атрымала калядны падарак. За прыгожы вечар для дзяцей належыцца ад бацькоў шчырая падзяка арганізатаркам. Адно шкада, што ня было Дзеда Мароза.

У нядзелю 7 студзеня сёлета адбылося супольнае сьвяткаваньне праваслаўных Калядаў для дарослых. Раніцай у царкве Жыровіцкае Божае Маці супольна адправілі Божую Службу прат. а. Янка Абабурка й а. Янка Пякарскі, пасьля чаго адбылася бяседа ў царкоўнай залі, у якой прынялі ўдзел і госьці з Брадфарду. Сабралася панад 200 асобаў.

Бяседу адчыніў старшыня Парахвіяльнай Рады БАПЦ М. Яськевіч, а прат. а. Янка Абабурка сказаў малітву й пабагаславіў сталы. Шасьцігадовая дзяўчынка Юльяна Калбаса паднесла а. Янку падарак ад Брадфардзкай парахвіі. Сакратар Рады БАПЦарквы ў Вялікабрытаніі Янка Калбаса выступіў із заклікам да прысутных памагаць ахвярамі для царквы ў Брадфардзе. На ягоны заклік было сабрана больш за 38 фунтаў.

Належыцца шчырая падзяка жанчынам за цудоўна прыбраныя й багата застаўленыя сталы, асабліва матушцы Кацярыне Абабурка і сп-ні Б. Гінько. Калі Беларусы з Брадфарду меліся вяртацца прыватным аўтабусам дамоў, заехалі ў Беларускі Клюб, дзе яшчэ гулялі да позьняга часу. Сьвяткаваньне пакінула добрае ўражаньне ў прысутных.

**М. Стаўпіскі**

## СЛУЦКІЯ УГОДКІ У ДЭТРОЙЦЕ

Сьвяткаваньне 52-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня й „сярэбранага" юбілею Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў пачалося ў Дэтройце ўжо 12 лістапада летась. Пасьля Сьв. Літургіі ў БАПЦарква Сьв. Духа Прасьвяшчэнны Ўладыка Мікалай сказаў вельмі прыгожае прынагоднае казаньне, а тады адслужыў паніхіду па ўсіх беларускіх героях, што аддалі сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну Беларусь.

Пасьля гэтага ў царкоўна-грамадзкай залі адбылася ўрачыстая акадэмія. Сакратар да Справаў Вэтэранаў Д-р Я. Сажыч прачытаў угодкавы рэфэрат, у якім падчыркнуў значаньне Слуцкага збройнага чыну й беларускай вайсковай акцыі ў часе Другое сусьветнае вайны. Абедзьве гэтыя зьявы пакінулі нязьнішчальны сьлед на псыхіцы Беларусаў у сэньсе вайсковым і ў аспэкце нацыянальнага ўсьведамленьня народных масаў. Адсюль пачалася й неразрыўная ўжо вайсковая традыцыя.

Пасьля дакладу ўсе прысутныя прапялі „Сьпі пад курганам герояў". Прывітаўшы прысутных, Старшыня Рады БНР Д-р В. Жук-Грышкевіч зьвярнуў увагу на тое, што, ушаноўваючы памяць беларускіх герояў і адзначаючы ўгодкі беларускіх вэтэранскіх арганізацыяў, трэба таксама ўшаноўваць і жывых заслужаных Беларусаў. Пры гэтай нагодзе былі выдадзеныя адзначэньні некалькім заслужаным вэтэранам.

Мастацкая частка складалася з дуэту сп-ні Т. Пляскач і сп-ні Б. Сажыч, якія прапялі „Слуцкія ткачыхі" й „Я ад вас далёка". Быў прадэклямаваны ўрывак з паэмы Міхася Кавыля „Пад небам Случчыны каханай". Ната Бакуновіч адыграла на піяніне вайсковы марш і амэрыканскі нацыянальны гімн. На заканчэньне ўсе прысутныя прапялі беларускі нацыянальны гімн. Далей абед, бяседа й вайсковыя песьні працягваліся аж да вечара.

**Вэтэран**

## ГОЛАС З ТАГО СЬВЕТУ

У Аўстраліі знайшоўся яшчэ палітычны дыназаўр, нейкі Мар'ян Калускі, які напісаў у лёнданскую польскую „Газэту Недзельну" ліста, а „Газэта" яго надрукавала (19. XI. 72) пад заг. „Ешчэ о Бялорусінах".

Пан Калускі, дастаўшы ад сп. М. Нікана колькі нумароў выдаванага ў Лёндане паангельску „Журналу Беларусаведы" (The Journal of Byelorussian Studies) ды пазнаёміўшыся зь ягоным зьместам, жахнуўся. Усё, што для Калускага было дагэтуль польскім, гэтыя Бялорусіны, бачыце, папрысабечвалі. І ён разам з „Газэтай Нядзельнай" плача па Ігнату Дамэйку, Уладыславу Сыракомлю, Яне Чачоту, Рамане Ськівмунту ды па іншых ураджэнцах Беларусі й дзеячох беларускага адраджэньня.

„Таксама бесцырыманіяльна, — абураецца п. Калускі, — да беларускага мастацтва залічаюцца каталіцкія касьцёлы, замкі й палацы, ратушы, барокавыя камянічкі або слуцкія паясы. І няма ніякага дачыненьня да гэтага Паляком, якія на гэта клалі грошы, усё гэта будавалі, у гэтым жылі ці карысталіся з гэтага дзесяткамі й навет сотнямі гадоў".

Кажуць: век жыві, век вучыся... Пад старасьць і пан Калускі, заехаўшы ў Аўстралію, даведаўся, што ў Беларусаў, апрача лапцяў і пугі, была йшчэ свая гісторыя.

**А. Будзіч**

### КНІГА ЎСПАМІНАЎ а. ГЭРМАНОВІЧА

Ведамы беларускі пісьменьнік і рэлігійна-грамадзкі дзеяч а. Язэп Гэрмановіч падрыхтаваў да друку дакумэнтальную аповесьць (каля 350 старонак фармату ягонае папярэдняе кнігі ўспамінаў „Кітай — Сібір — Масква"). У новай кнізе апісваюцца падзеі на Беларусі ды беларускае рэлігійнае й грамадзкае жыцьцё 1905-1922 гадоў — нязвычайна цікавы пэрыяд нашае гісторыі.

На выданьне кнігі патрэбныя грошы. Зварачаемся тут з заклікам да ўсіх дапамагчы аўтару выдаць ягоную кнігу як мага хутчэй. Ён заслугоўвае ўсякага магчымага падтрыманьня. Пішэце яму на адрыс:

Rev. J. Hermanovich
Marian House
Holden Avenue
London. N. 12 8HY
England

### КАРЫСНАЕ Й ПАТРЭБНАЕ ВЫДАНЬНЕ

Нядаўна выйшла з друку й прадаецца 2-е пашыранае выданьне кнігі ў ангельскай мове „Вялікалітоўская (Беларуская) кухарка", апрацаваная сп-няй Марыяй Станкевіч. У старанна з тэхнічнага друкарскага боку кнізе на 64-х бачынах друку пададзеныя найбольш пашыраныя й характэрныя ў Беларусаў емінныя патравы й спосаб зрыхтаваньня кажнае зь іх. Побач з ангельскімі назовамі патраваў падаюцца й іхныя назовы пабеларуску. На бачыне вокладкі пададзеная кароткая інфармацыйная зацемка пра Беларусь.

Пажадана, каб Беларусы куплялі гэтую кнігу ня толькі для сябе, але і ў якасьці падарункаў для сваіх амэрыканскіх прыяцелляў. Цана кнігі $ 2.00. Выпісваць паводля адрысу:

Mrs. Mary Stankevich
275 Genovieve Ave.,
Hawthorne, N. J. 07506.

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"!**

## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Ветліва дазвольце гэтай дарогай выказаць ад шчырага сэрца Вам усім нашую найшчырэйшую падзяку за Вашую дабразычлівасьць на наш заклік прыняць удзел у сёлетняй выйгрышнай лятарэі, якая была — і тут трэба асабліва падчыркнуць — дзякуючы шчодрасьці й ахвярнасьці вялікай колькасьці нашых суродзічаў, аднэй з найбольш пасьпяховых. Даход зь лятарэі пойдзе поўнасьцяй на выданьне „Гісторыі Беларусі".

Сёлетні розыйгрыш лятарэі адбыўся ў сыботу 13 студзеня. Выйгрышы выпалі на гэткія нумары білетаў і іхных собсьнікаў: 1. А. Вазноніс з Чыкага (№ 1354) — $ 125.00; 2. М. Стэльмашак (№ 3621) з Таронта — $ 75.00; 3. П. Бобрык (№ 157) з Ашавы — $50.00; 4. Г. Рыд (№ 211) з Уітбі — $25.00. Прэміі за прадажу лятарэйных кніжачак прызнаныя па $ 12.50 сп.сп. А. Маркевічу (20 кніжачак) і А. Хараўцу (7 кніжачак).

**Управа Клюбу „Пагоня"**

**Пра культурныя й сацыяльныя працэсы Беласточчыны** пішацца ў кнізе Ўладзімера Паўлючука „Сьветагляд адзінкі ўва ўмовах распаду традыцыйнага грамадзтва", што выйшла ў канцы году летась у варшаўскім навуковым выдавецтве. У разьдзеле кнігі „Усходнеславянская этнічная група на Беласточчыне" аўтар аналізуе паняцьце нацыі й этнічнае групы. У іншым разьдзеле апісвае ўсходнеславянскія вераваньні, народную культуру, ейнае паходжаньне, абрады й міты — усё гэта на фоне працэсаў і кірункаў разьвіцьця грамадзтваў сучаснае індустрыяльнае эпохі.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні месяц (студзень 1973) наступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. ЗША:**

| | |
|---|---|
| 1. Л. і Ул. Брылеўскія | $ 100.00 |
| 2. М. Кумэйша | 20.00 |
| 3. В. Кажан | 20.00 |
| 4. В. і М. М. | 20.00 |
| 5. М. С. | 15.00 |
| 6. Я. Арцюх | 15.00 |
| 7. Д-р А. Багдановіч | 12.00 |
| 8. Л. Савёнак | 12.00 |
| 9. а. Я. Пятроўскі | 10.00 |
| 10. М. Хмыз | 10.00 |
| 11. А. Вазноніс | 10.00 |
| 12. Я. Казьлякоўскі | 10.00 |
| 13. Я. Возьняк | 10.00 |
| 14. М. Дубоўская | 10.00 |
| 15. А. Харбін | 10.00 |
| 16. М. Артон | 10.00 |
| 17. Д-р Ул. Бакуновіч | 10.00 |
| 18. Інж. Я. Бруцкі | 10.00 |
| 19. В. Пляскач | 10.00 |
| 20. П. Пецька | 8.00 |
| 21. А. Махноўская | 6.00 |
| 22. П. Пол | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 353.00** |

**2. Канада:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Р. Жук-Грышкевіч | $ 50.00 |
| 2. Згуртаваньне Беларусаў Канады | 30.00 |
| 3. М. Стэльмашак | 10.00 |
| 4. Я. Сурвіла | 9.45 |
| 6. О. Сьвяневіч | 6.00 |
| **Разам:** | **$ 105.00** |

**3. Аўстралія:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р А. Беразоўскі ад Беларусаў Заходняй Аўстраліі | $ 55.00 |
| 2. П. Трысмакоў | 10.58 |
| 3. В. Васіленя | 10.00 |
| 4. М. Нікан | 2.20 |
| 5. А. Калодка | 2.00 |
| 6. Т. Корбут | 2.00 |
| 7. В. Кавэліч | 0.60 |
| **Разам:** | **$ 82.38** |

**4. Францыя:**

| | |
|---|---|
| 1. К. Каштэлян | $ 12.00 |
| **Усяго разам:** | **$ 550.83** |

**АПЛАТЫ ЗА КЛІШЫ, АБВЕСТКІ Й СЯМЕЙНУЮ ХРОНІКУ**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р В. Рамук за клішы | $ 16.00 |
| 2. Ю. Найдзюк за кляпсыдру | 15.00 |
| **Разам:** | **$ 31.00** |

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**